

Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№198 (711) 9-11 кастрычніка 1993 г. Субота-панядзелак. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 505170 экз. Кошт у розніцу — 15 руб.

## ФАКС

### Вкратце

**Щедрые дары осени в широком ассортименте будут представлены на ярмарках-базарах, которые организуют в городах Беларуси торговые предприятия разных форм собственности в ближайшие выходные дни.**

В Минске ярмарки-базары широко раскинут свои ряды 9 и 10 октября возле Дворца спорта, на площади Комаровского рынка, возле универмага "Беларусь", во всех микрорайонах города.

❑

**11 октября в Беларусь прибывает директор Европейского регионального бюро Всемирной организации здравоохранения доктор Дж.Асвал.**

Цель визита — обсуждение вопросов сотрудничества Республики Беларусь с Европейским региональным бюро ВОЗ.

❑

**На сегодняшний день хозяйствами республики сдан государству 1 миллион 647 тысяч тонн зерна урожая нынешнего года из двух запланированных поставкой.**

Как сообщил начальник управления хлебных ресурсов Министерства хлебопродуктов Республики Беларусь, это больше уровня поставок прошлого года за аналогичный период на 40 тысяч тонн.

❑

**В России траур в память о невинно погибших в массовых беспорядках в Москве 3—4 октября.**

В воскресенье, 10 октября, в минском Свято-Духовом Кафедральном соборе состоится панихида в канун 9 дней со времени трагедии в Москве.

❑

**На белоярской АЭС в России объявлена локальная авария — обнаружена утечка теплоносителя первого контура из вспомогательного контура системы очистки.**

Радиационная обстановка на атомной станции и в точках внешнего дозиметрического контроля в районе ее расположения нормальная. Облучения персонала нет.

❑

**Пост номер 1 у Мавзолея Ленина упразднен.**

Об этом сообщили вчера в Главном управлении охраны РФ, отметив, что, как предполагается, сейчас готовится распоряжение об учреждении нового поста — у Вечного огня у кремлевской стены.

❑

**Два неопознанных вертолета нарушили в четверг воздушное пространство Таджикистана в районе 8-й заставы Пянджского погранотряда на таджикско-афганской границе.**

В течение 5 минут оба вертолета совершали облет приграничной территории, после чего возвратились в Афганистан.

❑

**Министр внутренних дел Абхазии Гия Агрба заявил, что криминогенная ситуация в республике "фактически стабилизировалась".**

В Сухуми, по его словам, за последние два дня не было ни одного убийства.

❑

**В Узбекистане встревожены ядерным взрывом в Китае.**

Как считает профессор Ташкентского государственного технического университета Абдулла Бараев, новое ядерное испытание на китайском полигоне Лабнор, произведенное в начале октября, может иметь серьезные последствия для окружающей среды всей Центральной Азии.

### Минский аэропорт "штормит"

**В аэропорту Минск-2 работает комиссия, созданная Советом Министров Беларуси. Ее цель — разобраться в споре между Белорусским объединением гражданской авиации и госпредприятием "Аэропорт Минск-2".**

Дело в том, что объединение видит будущее аэропорта только в своем составе и как следствие претендует на кадровый, финансовый и экономический контроль над ним. Руководство же аэропорта считает необходимым перейти в прямое подчинение Министерству транспорта и коммуникаций.

**Юрий ГОРЫНЬ.**

### За что арестовали Волчкова?

**В следственный изолятор республиканского КГБ доставлен заместитель начальника ОБЭП Витебского областного УВД Александр Волчков.**

Опытный работник милиции арестован витебским отделом управления МВД по борьбе с организованной преступностью и коррупцией по подозрению в корыстном содействии в финансовых операциях по "отмыванию" незаконных доходов "коммерсантов" в одном из банков.

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

***P.S.** Другие криминальные сообщения читайте на 2-й странице "Народной газеты" в новой рубрике "Криминал-неделя".*




Рисунок Олега ПОПОВА.

### Зря, выходит, запрещали?

**Прокуратура области опротестовала решение Витебского горисполкома о запрете празднования 8 сентября Дня белорусской воинской славы.**

Протест датирован 4 сентября, но почему-то был долго окутан пеленой молчания. Тем не менее праздничный митинг на площади Свободы был проведен, и милиция в это дело не вмешивалась.

**Сергей ВИТЕБСКИЙ.**

### Спорт-экспресс

Вничью закончилась очередная, 14-я, партия матча "Чемпионат мира "Таймс". Гарри Каспаров (Россия) выигрывает у Найджела Шорта (Англия) — 9,5:4,5 очка.

Каспарову, чтобы добиться чемпионского титула, достаточно набрать в оставшихся матчах всего три очка.

❑

Со счетом 2:0 сборная иностранных футболистов немецкой бундеслиги выиграла благотворительный матч у чемпионов мира — национальной команды Германии.

В составе сборной иностранных "звезд" на поле выходили россияне Черчесов и Цхададзе.

### Подвиг не знает границ

**36 брестских ветеранов были приглашены в горисполком для получения "Медали участника оборонительной войны 1939-го года" Республики Польша.**

Медали торжественно вручил специально прибывший в Брест военный атташе Республики Польша в Беларуси Анджей Бортновский.

**Василий ВИКТОРОВИЧ.**

### Виват, опера! Виват, балет!

**Сегодня Министерство культуры республики и дирекция Государственного академического Большого театра оперы и балета Беларуси проводят торжественный вечер, посвященный 60-летию со дня открытия театра.**

Большая праздничная программа рассчитана на четыре с лишним часа...

**Виталий ЮДЧИЦ.**

### Ксерокс уже не "выручит"

**К началу нового года в Минском метро станет возможным введение магнитных пластиковых проездных билетов.**

Это повлечет за собой и введение совершенно новой системы оплаты и контроля проезда. Главная цель новшества — навести в метро определенный порядок, ведь сейчас работники метрополитена "конфисковывают" ежедневно десятки поддельных проездных билетов.

**Юрий ЛЕШКЕВИЧ.**

### Нет плохих новостей. Уже хорошая новость

**В сентябре через государственную границу Беларуси было пропущено свыше 220 тыс. единиц транспортных средств и около 1,5 млн.человек.**

Пограничники задержали без малого 100 человек, а также контрабанды, по предварительным оценкам, более чем на 30 млн.руб. Кроме того, предотвращены попытки провоза через нашу границу свыше 40 единиц оружия и более 20 кг наркотиков. В общем, месяц был как месяц: шла нормальная служба. Начало октября пока ничего дурного на белорусскую границу не принесло. И слава Богу!

**Владимир НЕСТЕРОВИЧ.**

### От этих выбросов даже партия позеленела

**Партия зеленых Беларуси предприняла трехдневное пикетирование Гомельского речного порта.**

Зеленые установили, что из-за транспортировки песка автомашинами через густонаселенные районы центра города в воздух выбрасывается уйма вредных веществ. Требование зеленых — перевести порт на южную окраину города. Такой вариант, кстати, предусматривался давно. В минувшем году облисполком даже выделил на проектирование нового речного узла в Осавцах миллион рублей из чернобыльских средств, но потом Госкомчернобыль "зарубил" финансирование.

**Анатолий ЛИПСКИЙ.**

### Лет до ста расти

**По приглашению Кобринского оздоровительного клуба Кобрин и Брест посетил известный пропагандист здорового образа жизни 89-летний Михаил Михайлович Котляров.**

Михаил Михайлович 30 лет не знает дороги в аптеку, продолжает бегать марафоны и ездить по миру є лекциями, возя с собой любимую супругу. На лекциях гость вызывает смелых прилюдно бороться на руках, пропагандирует систему Александра Суворова, делится собственным опытом омоложения. В Бресте встреча проходила в зале заседаний горисполкома, где к восторгу публики лектор продемонстрировал ряд омолаживающих упражнений, улегшись на полированном столе, знавшем доселе лишь угрюмые локти отцов города.

**Василий САРЫЧЕВ.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.**

*Франц ВРАНІЦКІ:*

# Уладкаванне Еўропы павінна ісці на роўных...

## Галоўны рэдактар "Народнай газеты" Іосіф СЯРЭДЗІЧ перадае з Вены.

Як паведамлялася ў папярэднім нумары "Народнай газеты", Федэральны канцлер Аўстрыйскай Рэспублікі Франц Враніцкі запрасіў кіраўніцтва Беларусі прыняць удзел у чарговым пасяджэнні Савета Еўропы. Гэтым самым ён выказаў вялікі давер да нашай суверэннай краіны, якая з'яўляецца пакуль што кандыдатам у члены Савета Еўропы. Аб намеры ўступіць у гэтую вядомую і дзейсную міжнародную арганізацыю заявілі таксама Расія, Украіна, Латвія, Малдова.

У лісце Франца Враніцкага на імя Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча, у прыватнасці, адзначаецца:

"Сёння, калі Еўропа ўступіла ў паласу глыбокіх палітычных, эканамічных і сацыяльных перамен, падобная нарада можа стаць вельмі важнай для краін — членаў Савета Еўропы ў іх імкненні ўнесці ўклад у справу міру і развіццё дэмакратыі на кантыненце.

Гэта асабліва прыкметна з таго пункту гледжання, што Савет Еўропы з'яўляецца адзінай арганізацыяй, якая прадастаўляе нараджаючымся дэмакратычным рэжымам магчымасць удзельнічаць ва ўладкаванні Еўропы на роўных..."

Я паставіў шматкроп'е і падумаў: як добра, што наша родная Беларусь нарэшце самастойна выходзіць на міжнародную арэну, заяўляе пра сябе як пра суверэнную дзяржаву, якая імкнецца да ўсталявання дэмакратычнага ладу, замацавання цывілізаваных зносін з краінамі бліжняга і далёкага замежжа. І ўваходжанне ў Савет Еўропы — рэальны і значны крок у гэтым накірунку.

А наогул, што мы ведаем пра Савет Еўропы? Думаю, многім чытачам "Народнай газеты" цікава будзе пазнаёміцца з даведкай, падрыхтаванай Міністэрствам замежных спраў рэспублікі.

Гэтая міжнародная арганізацыя, адзначаецца ў ёй, створана ў 1949 годзе дзесяцю дзяржавамі — удзельніцамі Лонданскага дагавора. Сёння яна аб'ядноўвае 32 краіны, уключаючы Эстонію і Літву.

Чым прываблівае еўрапейскую супольнасць Савет Еўропы? У першую чаргу прагрaмнымі мэтамі: а) абарона і падтрымка плюралісцкай дэмакратыі і правоў чалавека, б) пошук шляхоў вырашэння праблем, якія стаяць перад грамадствам, в) спрыянне стварэнню сапраўднай еўрапейскай культурнай індывідуальнасці.

Савет Еўропы — не фармальная арганізацыя. Яна мае два моцныя кіруючыя органы: Камітэт міністраў на ўзроўні міністраў замежных спраў, што прымае рашэнні, і Парламенцкая Асамблея, члены якой прызначаюцца нацыянальнымі парламентамі. Камітэт міністраў збіраецца два разы ў год і разглядае любыя пытанні еўрапейскага супрацоўніцтва, акрамя пытанняў абароны. Парламенцкая Асамблея іграе важную ролю ў абмеркаванні галоўных накірункаў Савета Еўропы.

Аб тым, што гэтая міжнародная арганізацыя ўвогуле не дэкаратыўная, сцвярджае і такі факт. У яе Сакратарыяце, які з'яўляецца выканаўчым органам, працуе каля тысячы чалавек. На сённяшні дзень узначальвае Сакратарыят француженка Катрын Лялюм'ер, якая абрана на гэтую пасаду тэрмінам на пяць гадоў.

Паколькі Беларусь збіраецца ўвайсці паўнамоцным членам у Савет Еўропы, то лічу неабходным заўважыць, што яна павінна ўзяць на сябе дадатковую адказнасць. Так, за гады існавання гэтай міжнароднай арганізацыі прынята больш за 140 канвенцый і пагадненняў, у адпаведнасць з якімі дзяржавы-ўдзельніцы вымушаны былі прывесці свае нацыянальныя заканадаўствы. Дарэчы, некаторыя важныя дакументы адкрыты для далучэння краін, якія не ўваходзяць у Савет Еўропы. Да іх належаць: Еўрапейская канвенцыя па правах чалавека, Еўрапейская культурная канвенцыя, Еўрапейская сацыяльная хартыя, Канвенцыя аб недапушчэнні катаванняў, аб забароне тэрарызму, аб абароне навакольнага асяроддзя і інш.

Краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы могуць разлічваць на дапамогу з боку Савета Еўропы ў правядзенні іх канстытуцыйных, заканадаўчых і адміністрацыйных рэформ. З гэтай мэтай зацверджана спецыяльная праграма "Дэмасфен".

Беларусь зрабіла першыя крокі ў накірунку да Савета Еўропы. Прэзідыум Вярхоўнага Савета даручыў Савету Міністраў падрыхтаваць прапановы аб прывядзенні заканадаўства нашай рэспублікі ў адпаведнасць з агульнапрынятымі стандартамі Савета Еўропы ў галінах правоў чалавека і дэмакратычных інстытутаў і аб далучэнні Беларусі да Еўрапейскай канвенцыі аб абароне правоў чалавека і асноўных свабод.

Я мяркую, што "Народная газета" яшчэ неаднойчы вернецца да расказа пра добрыя міратворчыя справы Савета Еўропы. Сённяшні ж распарадак дня дазваляе толькі ў сціс.,ых формах перадаць інфармацыю пра знаходжанне нашай дэлегацыі ў сталіцы Аўстрыйскай Рэспублікі — сусветнавядомай Вене. Узначальвае яе Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч. На пасяджэнне Савета Еўропы ён прыбыў з членамі Прэзідыума, старшынямі камісій Дзмітрыем Булахавым і Леанідам Козікам, сакратаром камісіі Валянцінам Голубевым, першым намеснікам міністра замежных спраў Георгіем Таразевічам.

Прама з аэрапорта дэлегацыя накіравалася ў знакаміты аўстрыйскі цэнтр — Вену. Гэта адна са штаб-кватэр Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Як і Нью-Йорк, яна ўражвае сваімі гмахамі, своеасаблівасцю архітэктуры, шматлюддзем. Вось і цяпер, калі дэлегацыі дзяржаў-удзельніц і дзяржаў-кандыдатаў вядуць дыялог, як кажуць, за зачыненымі дзвярыма, у прэс-цэнтры актыўна звязваюцца са сваімі выданнямі, радыё- і тэлекампаніямі сотні журналістаў. Хоць прэс-канферэнцыя яшчэ наперадзе, мае калегі з самых розных дзяржаў ведаюць, аб чым ідзе дыскусія за зачыненымі дзвярыма.Франц Враніцкі напярэдадні заявіў: "Я лічу, што дыскусія ў час абмену думкамі пойдзе па такіх накірунках, як членства ў Савеце Еўропы — фактар станоўчага ўкладу ў справу падтрымання і захавання дэмакратыі ў Еўропе, як стаць членам Савета Еўропы — праграмы, накіраваныя на аказанне дапамогі краінам, якія ідуць да гэтага; палітычныя праблемы, існуючыя ў Еўропе ў цэлым, дзейнасць Савета па іх вырашэнню.

Паколькі графік выхаду газеты не церпіць і сёння няма часу на падрабязны расказ пра канкрэтную размову кіраўнікоў еўрапейскіх дзяржаў, зраблю гэта ў наступным рэпартажы. А пакуль некалькі радкоў пра далейшую праграму візіту беларускай дэлегацыі ў Вену. У 12.00 па мясцоваму часу Федэральны прэзідэнт Аўстрыі даў абед для кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў у Венскім Хофбурге — былым імператарскім палацы. Затым, у 14.00, — адкрыццё сустрэчы ў вярхах Савета Еўропы.

Вечарам кіраўнікі дзяржаў і ўрадаў сустрэліся ў замку Шонбрун, дзе аўстрыйскі Федэральны канцлер наладзіў вячэру ад імя Федэральнага ўрада для кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў.

Насычаным будзе і суботні дзень. У праграме — як рабочыя пасяджэнні, так і мерапрыемствы культурнага характару. Закончыцца венская сустрэча наведваннем кіраўнікамі дзяржаў і ўрадаў, членамі дэлегацый тэатра, дзе адбудзецца прэм'ера оперы "Напітак кахання".

Рыхтуючы гэты рэпартаж да перадачы ў Мінск, я спадзяюся на інтэрв'ю з членамі нашай дэлегацыі, якое па магчымасці "Народная газета" надрукуе ў наступным нумары. А цяпер хочацца толькі выказаць падзяку прэс-адміністрацыі Савета Еўропы, якая запрасіла ў Вену шэраг журналістаў з рэспублік былога СССР. Пашанцавала і аўтару гэтых радкоў. Прыемна хоць дзень-другі "паварыцца" ў асяроддзі калег-журналістаў не толькі Еўропы, але і ўсяго свету.

*Вена, 8 кастрычніка 1993 г.*

*Голас апазіцыі*

### "У будучых дэпутатаў павінна быць свая прысяга"

**Такое патрабаванне ўнёс на праведзенай 7 кастрычніка сустрэчы дэпутатаў апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь з выбаршчыкамі Валянцін Голубеў. Прысяга на вернасць народу і дзяржаве, на яго думку, не дасць магчымасці стаць парламентарыямі тым, хто выступае супраць дзяржаўнай незалежнасці Беларусі.**

Сустрэча адбылася ля будынка Дома афіцэраў, на ёй прысутнічала каля дзвюх тысяч выбаршчыкаў. Перад прысутнымі таксама выступілі дэпутаты ад апазіцыі Леанід Баршчэўскі, Сяргей Навумчык, Алег Трусаў, Барыс Гюнтэр і Зянон Пазьняк. У іх выступленнях, у асноўным, гучаў пункт гледжання на сітуацыю ў рэспубліцы, выкладзены ў звароце апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце да кіраўніцтва рэспублікі ад 4 кастрычніка. Лідэр БНФ Зянон Пазьняк, у прыватнасці, заявіў, што кіраўнік беларускага парламента Станіслаў Шушкевіч абавязаны паставіць на маючай адбыцца сесіі пытанне аб адстаўцы цяперашняга ўрада. Што датычыцца самога спікера, то, на думку лідэра БНФ, у адносінах да яго не трэба цешыць сябе ілюзіямі і ўскладаць надзей. У пацвярджэнне гэтага быў прыведзены прыклад пазіцыі Старшыні Вярхоўнага Савета па правядзенню рэферэндуму аб датэрміновых выбарах, а таксама змяненне яго адносін да тэрмінаў склікання сесіі. Зянон Пазьняк таксама лічыць, што "як толькі Ельцын растопча камуністаў, Расія будзе праводзіць сваю геапалітыку". Яна, на яго думку, будзе насіць праімперскі характар.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, Белінфарм.**

*Прэс-канферэнцыя*

## Сталяроў з намеснікам бразгаюць дзвярыма

**Мікалай ГАЛКО**

Рашучы крок зрабіла Пастаянная камісія па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека: у мінулы чацвер яна прыняла пастанову аб адносінах газет, радыё і тэлебачання да дзяржаўнага суверэнітэту і канстытуцыйнай законнасці. Высновы, зробленыя дэпутатамі, несуцяшальныя. Многія выданні, як сказаў на прэс-канферэнцыі намеснік старшыні камісіі Анатоль Вярцінскі, выкарыстоўваюць інтэлектуальны патэнцыял не па прызначэнню: ганьбяць незалежнасць дзяржавы, сеюць насенне разладу, шальмуюць герб і сцяг. У гэтым кантэксце называліся ўрадавыя газеты "Белорусская нива", "Советская Белоруссия", "Рэспубліка".

Пастанова, якая прынята камісіяй, прадугледжвае шэраг мер па аздараўленню творчай атмасферы ў сродках масавай інфармацыі. Прапаноўваецца скасаваць саўмінаўскія структуры — упраўленне інфармацыі і аддзел па друку. На думку камісіі, яны бяруць пад сваю пяту рэдакцыі, перашкаджаюць працаваць Міністэрству інфармацыі. Запісана і аб немэтазгоднасці знаходжання на пасадзе кіраўніка Белдзяржтэлерадыёкампаніі Сталярова.

Абмеркаванне праекта пастановы, паводле сведчання дэпутата Навумчыка, было бурным. Сталяроў са сваім намеснікам Булацкім нават дэманстратыўна пакінулі пасяджэнне.

Ваш карэспандэнт задаў пытанне: чым выкліканы дэмарш дзяржаўных чыноўнікаў? Адказваў дэпутат Зянон Пазьняк. Як ён зазначыў, намеснік старшыні Белдзяржтэлерадыёкампаніі Булацкі двойчы забараніў выхад у эфір матэрыялаў аб падзеях у Маскве. Гэта прыватны выпадак. Наогул жа, на думку Пазьняка, склалася злачынная сітуацыя, калі дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі змагаюцца супраць дзяржаўнасці, што красамоўна адлюстроўвае стан улады.

Нехта не стрымаўся на пасяджэнні ў выразах, сказаўшы пра загадчыка аддзела друку Паваляева, што "ён ніхто". Нехта ўспрыняў словы аб злачыннасці сітуацыі на свой кошт... І чыноўнікі бразнулі дзвярыма.

Пастанова тым не менш прынята большасцю галасоў. Спадзявацца на яе выкананне было б наіўна, бо прадстаўнікі ўрадавых газет імкнуліся ператварыць прэс-канферэнцыю ў рабочы сход, даючы характарыстыку: "это сбивчивый и невнятный разговор". Гэтая дэталь ужо шмат аб чым гаворыць. Няма сумнення, што вышэйшыя чыноўнікі з яшчэ большым скепсісам сустрэнуць парламенцкую ацэнку пасля пасяджэння камісіі.

Кіраўнік Дзяржтэлерадыёкампаніі Сталяроў выступіў з крыўдай на дэпутатаў: маўляў, ніхто не дапамагае, а толькі палкі ў колы ставяць. Праўда, гэта некалькі розныя рэчы — павага да беларускай дзяржаўнасці і адсутнасць антэны-талеркі. Дарэчы, намеснік міністра інфармацыі Іван Карэнда ў памяркоўнай манеры абвергнуў некаторыя эмацыянальныя абвінавачванні кіраўніка тэлерадыёкампаніі.

*Москва, 8 октября...*

## Убитые похоронены. Идет подготовка к новым выборам...

### Передает специальный корреспондент "Народной газеты" Леонид ФАДЕЕВ

Российская столица, предав земле прах своих погибших граждан, возвращается к обычной будничной жизни. Работают все предприятия, транспорт, сферы обслуживания. В магазинах есть необходимые продукты.

Президентская команда спешно форсирует подготовку к новым выборам всех властей. В будущей структуре государственного управления Советы депутатов не предусматриваются. Планируются другие органы — "более компактные", как заявили представители администрации Б.Ельцина.

Однако пережитый кошмар первых октябрьских дней все еще будоражит москвичей. Многие спешат к "Белому дому", по-прежнему окруженному пикетами автоматчиков. Вчера со здания Верховного Совета был спущен государственный флаг, убраны баррикады с прилегающих улиц, и теперь к "Белому дому" подпускают метров на сто. С близкого расстояния он потрясает следами разрушений, полученных за два дня жестокого боя. Верхние этажи до черноты закопчены дымом пожара, зияют пустые глазницы окон, большинство их выбито или повреждено. Ущерб исчисляется миллиардами рублей.

Внутри здания все еще действуют специальные воинские части по разминированию, поимке отдельных, скрывающихся в подвалах боевиков. Позавчера один из них, обнаруженный в темном углу подземелья, сначала поднял вверх руки, а затем выхватил пистолет и застрелился на глазах у омоновцев. Еще одно горе пришло в чью-то семью.

Если у кого-нибудь из граждан нашей республики есть необходимость навести справки о пострадавших, можно позвонить в Минздрав России по телефону: 927-21-32, а телефон приемной посольства Республики Беларусь в Москве — 924-70-31.

❑

Руслану Хасбулатову, Александру Руцкому, Альберту Макашову, Владиславу Ачалову, Андрею Дунаеву и Виктору Баранникову, находящимся в следственном изоляторе Министерства безопасности в Лефортово, предъявлен ордер на арест. Они арестованы по факту возбуждения уголовного дела, и в течение 10 дней в отношении них должно быть выдвинуто официальное обвинение.

❑

Лидер движения "Трудовая Россия" Виктор Анпилов, задержанный в четверг в пригороде Тулы (город примерно в 300 километрах к югу от Москвы), арестован и в настоящее время находится в следственном изоляторе Министерства безопасности России. Об этом сообщили вчера в Центре общественных связей МБР.

Данных о задержании лидера Фронта национального спасения Ильи Константинова, на арест которого также выдан ордер, пока не поступало.

❑

Работы по обследованию подвальных помещений "Белого дома" и их разминированию будут продолжены. В ЦОС МВД сказали, что в подвалах здания до сих пор могут находиться боевики из числа тех, кто защищал Верховный Совет.

Часть подвальных помещений "Белого дома" была заминирована боевиками. На сегодняшний день найдено и обезврежено 8 мин-ловушек.

**Интерфакс.**

*Это должен знать каждый*

# Земля становится товаром. И каким!..

## На вопросы обозревателя "Народной газеты" отвечает председатель Комитета по земельной реформе и землеустройству Михаил РУСЫЙ

**Наше молодое государство вплотную подошло к проблеме, на которой "сломала" себе голову не одна держава, из-за которой начинались гражданские войны, деревенские междоусобицы, поднимал вилы брат на брата.**

**Речь идет о "земельном вопросе". К конкретным реформаторским шагам в этой проблеме, повторюсь, вплотную подошла и наша республика. Земля постепенно становится ценнейшим товаром, и редакция буквально завалена звонками и письмами на эту тему: что, где, когда и как?**

**Мы, понятно, направились к знающим людям: пусть они расскажут нам, что такое земельная реформа в республике на нынешнем этапе и с чем ее "едят".**

— Вы пришли очень вовремя, — сразу сказал Михаил Иванович. — На днях состоялось заседание президиума Совета Министров, на котором были утверждены многие детали из механизма реформы. Можно, словом, брать быка за рога...

**— Наконец-то! Давайте поэтому напомним гражданам основные положения Закона "О праве собственности на землю", принятого нашим Верховным Советом 16 июня с.г.**

— Законом установлены две формы собственности на землю — государственная и частная. Субъектами права собственности могут выступать только граждане республики и лица, приравненные к ним. Право бывших собственников решено не признавать, они получают право иметь землю в собственности на общих основаниях. Что касается иностранных, юридических и физических инвесторов, то закон предоставляет им право получать земельный участок под вкладывание инвестиций, в долгосрочную, до 99 лет, аренду.

Все крупное землепользование (земли колхозов, совхозов, фермерских (крестьянских) хозяйств и других землепользователей) находится в собственности государства. Это около 85—90 процентов сельхозугодий.

В частную собственность граждане имеют право получить земельные участки для ведения личного подсобного хозяйства (в размере до 1 гектара); обслуживания жилого дома (в городах 0,05—0,15 га, в сельской местности 0,15—0,25 га); ведения индивидуального и коллективного садоводства (10 соток).

**— С правами ясно. А что конкретно сейчас делать человеку?**

— Тот, кто желает приобрести свой участок в собственность, должен начиная с 1 сентября в течение 18 месяцев подать заявление в соответствующий местный (сельский или районный) Совет народных депутатов.

Хочу обратить внимание на очень важную деталь.

Давая право приобретать земельные участки в собственность, закон оставляет право гражданам иметь этот участок в пользовании так, как им пользуется и в настоящее время, или же получить его в пожизненное наследуемое владение. Никто, словом, забирать участок не будет, если у человека нет денег для выкупа.

Гражданам, которые имеют несколько участков (например, дача и участок под индивидуальным жилым домом), предоставлено право по льготной цене выкупить только один из этих участков, другой же — по нормативной.

Все колхозы, совхозы, межхозы и другие сельхозпредприятия в короткие сроки получат государственные акты на право постоянного пользования землей.

Для тех, кто еще не получил участок, в каждом районе имеется достаточный фонд земель для этих целей. Этот фонд (а по Республике Беларусь уже сегодня он составляет около 800 тыс. гектаров) будет увеличен еще.

**— Спасибо, с этим разобрались. Идем дальше. Поговорим о том, что будоражит людей больше всего, — о ценах...**

— Вопрос действительно сложный. Даже для специалистов. Мы им занимались дотошно, с привлечением ученых ведущих НИИ, имеющих отношение к данной проблеме. Помогло то, что в республике имеются хорошие почвенные карты, проведены три тура обследований, определена качественная оценка (бонитировка) земель.

По климатическим условиям территория республики подразделяется на три зоны — северную, центральную и южную, каждая из них делится на два округа — западный и восточный.

Выделено 17 групп почв, которые отражают природное состояние земель и общее направление их использования. Методика расчета нормативной цены позволит дифференцировать ее по группам почв и климатическим зонам. Нормативная цена рассчитана по типам, классам и группам земель исходя из среднестатистической их продуктивности и средних затрат, связанных с производством и реализацией продукции растениеводства. Оценка стоимости продукции и затрат проведена в ценах на конец 1993 года с учетом нормативной рентабельности, равной 35 процентам. Нормативная цена земельных участков, расположенных вокруг крупных городов и промышленных центров, изменяется в зависимости от удаления от них. Так, цена земельных участков, расположенных на расстоянии до 10 километров от г.Минска (городская черта), увеличивается в 2,4 раза, а в городах районного подчинения — в 1,2 раза.

**— Что ж, с "теорией" цен ясно. А что это значит на практике?**

— Значит, что граждане, имевшие до 16 июня 1993 года в пользовании указанные выше участки, могут выкупить их по льготной (не по нормативной) цене, которая равна 5 налоговым ставкам, или 6580 рублям (средняя нормативная цена по республике — 2,5 миллиона рублей). Значит, абсолютное большинство граждан получит возможность за чисто символическую плату выкупить свои участки, а это 1 миллион 800 тысяч семей, имеющих участки для ведения личного подсобного хозяйства, и 600 тысяч семей горожан, имеющих дачные участки. Кроме того, предусмотрено, что граждане, нуждающиеся в улучшении жилищных условий или не имеющие жилья, на протяжении всего времени действия закона будут иметь право по льготной цене приобретать участок под строительство дома.

**— И в какие суммы это "выльется"?**

— В большие. Так, для Минска нормативная цена земли составляет 51,8 миллиона рублей за гектар, в том числе стоимость необустроенной земли — 3,8 миллиона рублей. Стоимость земли, определяемая социально-экономическими факторами, — 14 миллионов рублей и стоимость потребительской ценности — 34 миллиона рублей за гектар. Такие примерно земли в Дзержинске оценены в 21,52 миллиона рублей. А земельные участки в городском поселке Ивье Гродненской области, исходя из указанных факторов, имеют оценку в 13,98 миллиона рублей за гектар.

В общем, чем дальше от столицы, тем дешевле.

**— Что ж, спасибо за информацию и разъяснения. Думаю, они снимут многие вопросы.**

— Нет, вопросы еще будут. И я хочу через "Народную газету" посоветовать всем гражданам держать связь с нашими землеустроителями на местах. Именно на них лежит сейчас главная нагрузка, они в курсе всех дел.

Земельная реформа только начинается, впереди работы очень много. Надеюсь, что обойдется без крайностей и политиканства. Нынешний закон, по-моему, соответствует реальности, на его основе можно решать любые спорные вопросы. Надеюсь, что нынешний "земельный передел" мы сумеем провести спокойно и достойно. Призываю к этому и всех граждан республики.

**Вел беседу Павел СТАСЕВИЧ.**

*Паленіка*

# А суддзі хто?

**Алесь ТАРАНОВІЧ, мастак**

Апошнім часам у рэспубліканскім друку ўсё часцей з'яўляюцца крытычныя артыкулы па мастацтву Андрэя Савіцкага, мастака, маладога чалавека з поглядамі мацёрага артадокса. У іх ён з сектанцкай упартасцю адпрацоўвае сваю рыторыку па непрыманню (мякка кажучы) дзвюх рэчаў: сучаснага мастацтва і беларускага нацыянальнага Адраджэння.

Артыкул, надрукаваны нядаўна ў адной з газет пад красамоўным падзагалоўкам "О белорусской культуре и ее "сусветна вядомых" представителях", (дарэчы, я палемізую з Савіцкім, а не з выданнем. — **Аўт.**), які ў абражальна-разухабістым тоне расказвае пра выстаўку ў Мінску мастака Леона Тарасэвіча, — не выключэнне.

Я не стаў бы адказваць на гэты опус аматара-мастацтвазнаўцы, у сваёй "разборцы" аперыруючага тэрмінамі марксісцка-ленінскай эстэтыкі накшталт: "разнообразно забрызганные краской холсты" площадью со среднюю квартиру", "отблеск площадной европейскости", "выставка эта — попытка повеселить зрителя на фоне суровых будней" і г.д.

Час такіх людзей прайшоў. Час даказаў фіяска некалькіх пакаленняў такіх крытыкаў і нават цэлых інстытутаў, як НДІ тэорыі і гісторыі выяўленчага мастацтва Акадэміі навук СССР.

Мадэрнізм развіваецца на працягу ўжо больш як сто гадоў. Ва ўсіх краінах свету яго прынцыпы ляглі ў аснову вобразна-пластычнай мовы мастацтва, адэкватнага нашаму часу.

Творчасць мастака-авангардыста Л.Тарасэвіча не патрабуе абароны. У беларускім мастацтве ён сёння фігура N 1. Яго творы выстаўляюцца ў самых прэстыжных галерэях розных краін і кантынентаў, яго творчасці прысвячалі свае работы крытыкі вядучых сусветных мастацкіх часопісаў, такіх, як, напрыклад, "ART" з ФРГ.

Сам факт, што сёння, калі няма нават спроб з боку нашых "маститых" крытыкаў цвяроза ацаніць сітуацыю ў мастацтве і за справу бяруцца такія, як А.Савіцкі, вельмі паказальны. Шмат гадоў тэарэтычна і практычна граміў "рок-жывапіс" яго бацька, вядомы мастак і тэарэтык, вялікі спецыяліст па Лeнініяне. "Дзякуючы" яму не маглі трапіць на выстаўкі творы М.Паўлоўскага, В.Мартынчыка, Г.Хацкевіча, сёння вядомых мастакоў, але... працуючых на Захадзе. Безумоўна, мадэрнізм не ідэальны. Але што ўзамен? Акадэмізм ці вядомы метад "праўдзівага адлюстравання надзейнасці плюс ідэалагічная нагрузка"? Пра гэта А.Савіцкі-малодшы ніколі не піша... А шкада!

Замест гэтага ў кожным яго артыкуле скрозь праступае думка, маўляў, куды беларусу лезці з "суконным рылом в калашный ряд". "Осади назад!" Разважна і цынічна здзекуючыся над беларускай тэрміналогіяй, да якой культуры ён адносіць сябе сам? Можа, па прыкладу бацькі збіраецца стаць сябрам "Союза русских художников"?

Ягоны артыкул дае падставу яшчэ раз закрануць праблему нашага сучаснага мастацтва. Апошнім часам часта гавораць, што Беларусь — цэнтр Еўропы. Аднак забываюць, што Еўропа — гэта не геаграфія, Еўропа — гэта культура, заснаваная на інтэлектуальным мысленні.

Сучаснае мастацтва — гэта ў першую чаргу інтэлект. Пры ўсім пры тым, што ў нас ёсць добрыя жывапісцы, графікі, скульптары, у нас няма сучаснага мастацтва. Мала лічыць сябе сучасным мастаком. Патрэбна добра ведаць, што робіцца ў сусветным мастацтве не на часопісах ці каталогах, патрэбны абменныя выстаўкі, сімпозіумы і канферэнцыі па гэтаму пытанню. Патрэбна стварэнне цэнтраў і галерэй сучаснага мастацтва і спецыялістаў еўрапейскай адукацыі, самае галоўнае, патрэбна дзяржаўная зацікаўленасць у гэтым пытанні.

Беларусь адна з нямногіх краін свету, дзе сучаснае мастацтва не падтрымліваецца і не субсідзіруецца дзяржавай, дзе няма музея сучаснага мастацтва і не адно ўжо пакаленне мастакоў вырасла пад размовы пра яго. Сёння гэту праблему ўзвалілі на свае плечы толькі нешматлікія прыватныя мастацкія галерэі, але гэта мізер.

Саюз мастакоў, заняты праблемай уласнага выжывання, практычна самаўхіліўся, Міністэрства культуры як 10 і 20 гадоў таму, аддае прыярытэт фальклорна-этнаграфічнаму развіццю культуры і мяняць гэтую палітыку не збіраецца. Дарэчы, там ніколі не хавалі сваіх адмоўных адносін да творчасці такіх мастакоў, як Л.Тарасэвіч. Менавіта адсюль і тыя цяжкасці, з якімі мастак сутыкнуўся пры падрыхтоўцы сваёй выставы, хаця яна і праходзіла пад эгідай Міністэрства культуры.

Мы ўступаем у эпоху вялікіх лічбаў, можа, надта вялікіх для мастацтва і для правільнай у ім арыентацыі. Мастацтва сёння неразрыўна звязана з эканомікай. Гэта добра разумеюць на радзіме Л.Тарасэвіча, у суседняй Польшчы. Там дзяржава адпускае вялікія сродкі на дзейнасць цэнтраў сучаснага мастацтва ў Варшаве і іншых гарадах. І зусім не дзіва, што наш заходні сусед знаходзіцца ў фазе эканамічнага ўздыму. Нам жа пры сённяшніх адносінах да мастацтва ніколі не выйсці са стану развіваючайся краіны. Пагарда да інтэлектуальнай і творчай эліты жорстка аукнецца ў будучым. І калі гэтая хвароба не будзе вылечана, то ў нашай культуры толькі адна будучыня — яе мінулае.

*Гостиная "Народной газеты"*

# "Молдова находится на перекрестке всех бед"—

## слова, сказанные летописцем в XVIII веке, актуальны и в конце XX



**Визитная карточка гостя: Думитру Мунтяну родился в 1939 году в селе Фрумушика Флорештского района. Образование высшее, агроном. Работал руководителем хозяйства, позже — на партийной работе. Несколько лет возглавлял Государственный комитет по физкультуре и спорту Молдовы. В июле 1991 года назначен постоянным представителем Республики Молдова в Республике Беларусь. С декабря 1991 года — по совместительству полномочный представитель Молдовы в координирующих органах Содружества Независимых Государств.**

**— Дмитрий Иванович, я не успел включить диктофон в начале нашей беседы, как зазвонил телефон. Судя по всему, говорили вы с Кишиневом. Если не секрет, о чем?**

— Ничего секретного. Звонили из аппарата президента, проинформировали о последнем заседании правительства. Если коротко — еще раз подтверждено, что наш путь в будущее лежит через СНГ. Будем интегрироваться в экономические структуры, но сохранять полную самостоятельность в политической сфере. Избегать увязывания политических и экономических обязательств в рамках СНГ — в этом, видимо, и состоит особая позиция Молдовы.

Хотя у нас парламент до сих пор не ратифицировал вступление Молдовы в СНГ, вопрос не снят с повестки дня. Если и на осенней сессии ратификация не наберет нужного числа голосов — президент оставляет за собой право распустить парламент. Кроме того, есть депутаты, которые готовы этот процесс ускорить и сложить с себя полномочия. Так что вопрос об СНГ вполне может стать для нынешнего состава парламента последним.

**— Кое-кто уже успел охладеть к СНГ, все чаще звучат признания о его неэффективности. А в Кишиневе, значит, связывают с ним серьезные надежды...**

— В Европе нас никто не ждет. Семинар в Маастрихте, который проводило Европейское сообщество для политиков новых независимых государств, еще раз это подтвердил.

Экономическая интеграция постсоветского пространства в той или иной форме неизбежна. На западный рынок наши товары просто не пустят, за редчайшим исключением.

**— Даже со своим вином Молдова не пробьется на западный рынок?**

— Спасибо за вопрос. Мне всякий раз приятно рассказывать, как на дегустации в Брюсселе молдавская партия вина получила наивысшую оценку — 10 баллов. Хотя такие крупные винодельческие страны, как Франция, Испания, Германия, вовсе не желают видеть новых конкурентов, специалисты вынуждены были признать высокие достоинства молдавских вин. Сегодня мы открываем для себя рынки Бельгии, Нидерландов, других европейских стран.

**— Знакомая картина — все лучшее продается за валюту. Так что вряд ли в Минске мы увидим знаменитое вино "Негру де Пуркарь"...**

— А я встречал его в минских магазинах. Хотя, конечно, нечасто. Этого вина не может быть много. Виноград для него растет только в одном месте Молдовы, у села Пуркарь. Особый микроклимат и состав почв придают вину уникальный вкус.

Но коль мы перешли к вопросам двусторонней торговли, хочу отметить, что в молдавском внешнеторговом обороте Беларусь занимает второе место после России. Номенклатура наших обменов очень широка. Можно было бы долго перечислять. Минский завод шампанских вин, например, на 90 процентов обеспечивается виноматериалами из Молдовы. Готовых виноградных вин в нынешнем году мы обязались поставить 600 тысяч декалитров. Из Молдовы поставляются фрукты, табак, семена кукурузы. Кстати, известно ли вам, что нашими учеными создан сорт кукурузы, районированный в Беларуси? Он получил название "Бемо".

Все обязательства, зафиксированные в двусторонних соглашениях, молдавская сторона выполняет скрупулезно. В этом отношении у нас нет взаимных претензий. Инфляция загоняет все цены ввысь, но в целом мы удобны друг другу как партнеры.

**— Какие проблемы вам кажутся общими для Молдовы и Беларуси?**

— Экономические, в первую очередь. Ситуация в Молдове довольно сложная. Хотя в промышленности наметилась за первое полугодие некоторая стабилизация, но все же уровень производства еще очень далек от докризисного. Несколько лучше обстоят дела у нас в аграрном секторе. Ожидается неплохой урожай, более 2 млн. тонн зерна первой группы. Сорок два центнера с гектара — это очень неплохой показатель для нашей республики. Молдова себя продовольствием обеспечит и даже будет что-то экспортировать.

Главной задачей для обоих наших правительств остается создание нормального докризисного уровня жизни людей.

**— Не так давно наши республики отмечали День независимости По понятным причинам эти даты стоят в календаре рядом. Но всякая такая годовщина — повод оглянуться. Экономический спад, политическая нестабильность... Не слишком ли высокой ценой приходится платить за суверенитет? Как в Молдове отвечают на этот вопрос?**

— Боюсь, что трудности неизбежны для государства, делающего первые самостоятельные шаги в современном мире. В Молдове я бы выделил две силы, объективно представляющие угрозу нашему суверенитету. Первая — прорумынские партии и движения. Искренне, вероятно, желая добра своему народу, они видят спасение в скорейшем воссоединении с Румынией. Вольно или невольно такие намерения вносят серьезную дестабилизацию в общество. Большая часть избирателей все-таки не за ними. Хоть сейчас ставьте этот вопрос на референдум — народ проголосует за самостоятельное существование. Впервые за много веков история дала такой шанс — жить не по указке, а своим умом. Что же, менять хозяев из Москвы на хозяев из Бухареста?

Вторая угроза — сепаратизм, раздирающий республику. Вы знаете об этом. Приднестровье — наша боль. Сейчас идут интенсивные поиски политических форм урегулирования. Тирасполю предлагается особая форма управления — но все пока натыкается на сопротивление приднестровских лидеров.

Правительство старается взвешенной национальной политикой создавать предпосылки для стабилизации: работают русские и украинские школы, выходят русскоязычные газеты, беспрепятственно транслируется "Останкино". Только мудрость и терпение помогут сохранить целостность и независимость Молдовы.

Большинство наших граждан верят, что мы можем существовать как независимое государство. Бог дал нам хорошие земли, на которых живет трудолюбивый народ.

**— Главе белорусского парламента тоже приходится выдерживать атаки и справа и слева. Вы находите что-то общее в положении Снегура и Шушкевича?**

— Снегуру приходится иметь дело с более серьезными угрозами. Взять тот же сепаратизм, который, к счастью, Беларуси не известен. Но стоит вспомнить, что молдавский президент избран всенародно и не зависит от воли парламентариев. Это обстоятельство придает большую политическую устойчивость.

**Вел беседу Игорь ФИЛИПЕНКО.**
**Фото Сергея ГРИЦА.**

# Криминал-неделя

***О преступлениях недели сообщают Виктор ЛЕЩЕНКО, Анатолий ГОТОВЧИЦ, Сергей БУТКЕВИЧ, Владимир ГОЛОД, Вячеслав ОСЬКИН.***

## Маньяк в лесу

**В лесу возле Светлогорска найден труп одного из четырех пропавших в райцентре в этом году мальчиков.**

Нашли грибники. Тело было присыпано, а рядом лежали черные шорты паренька, в которые он был одет в тот роковой летний день.

Судьба остальных исчезнувших детей неизвестна. Ведется следствие.

## Смерть "Деда Талаша"

**В Минском областном суде на этой неделе началось рассмотрение дела об убийстве народного депутата Московского района столицы Николая К.**

Убийство, как предполагается, было связано с его не вполне депутатской деятельностью на Комаровском рынке — больше известный как "Дед Талаш", Николай торговал валютой. Как установило следствие, двое его "коллег", одному из которых он ссудил 5 тысяч долларов и требовал их возврата, завезли его 1 марта на машине в лес, выстрелили в висок из газового пистолета, а затем задушили.

У Николая при себе было около 10 тысяч марок, 300 тысяч рублей, 2 золотые царские монеты и 10 серебряных.

## Молчание ягнят

**Свидетели молчали пять лет**

В 1985 году восемнадцатилетний Николай Иванов ради магнитофона "Беларусь-301" убил на пустыре в Минске паренька, нанеся тому не менее 60 ударов ножом в шею, грудь, голову. Затем подробно рассказал о "подвиге" трем друзьям и даже водил их на место "славы".

Следствие тогда не смогло раскрыть преступления.

Николай же после армии окончил школу милиции и служил в патрульно-постовой службе.

Один из тех, кто знал его тайну, два раза пытался покончить жизнь самоубийством, но идти в милицию долго не осмеливался... И даже на суде он дрожал от страха, а его успокаивали: "Да не бойся. Ведь его судят, а не тебя".

Городской суд приговорил Н.Иванова к 15 годам лишения свободы. Прокурор внес протест за мягкость наказания.

## Дубликатом бесценного груза...

**В Бобруйске сотрудниками межрайонного отдела управления по борьбе с организованной преступностью совместно с патрульно-постовой службой задержана группа ранее судимых.**

Один из них имел при себе пистолет Макарова и поддельный паспорт на чужую фамилию. Инкогнито оказался преступником, находящимся в розыске.

## Цыгане шумною толпою...

**Настоящей осаде со стороны цыган подвергся Гомельский областной суд.**

Здесь рассматривается уголовное дело об убийстве свояка цыганского барона соплеменниками из Бобруйска и Светлогорска. В подоплеке трагедии лежит обмен отечественной автомашины на иномарку. Сторонники убиенного намеревались разрешить дело самосудом. Усиленный наряд ОМОНа с автоматами и овчаркой охладил их пыл.

## Срок для председателя

**Председатель Узлянского сельсовета Пуховичского района приговорен к 13 годам лишения свободы в колонии усиленного режима.**

В тот зимний вечер он с братом был у себя дома. Раздался телефонный звонок из сельского клуба. Между местной молодежью, мол, возникла потасовка. Подвыпившие братья, взяв вырубленные палки, отправились на служебной машине "наводить порядок".

Как установило следствие, когда они приехали, клуб был уже закрыт и ребята расходились. Однако деревянные "усмирители" все-таки были пущены в дело. Досталось тогда многим. Несколько парней потеряли сознание от ударов по голове. Но разъяренные "блюстители правопорядка" в довершение ко всему налетели на отъезжавшую телегу, на которой была молодежь. Избитая Людмила Кудина от ран скончалась дома.

Брат председателя получил 6 лет.

## Проходной балл. Но очень дорого

**В суде Фрунзенского района столицы слушается дело директора одного из техникумов города.**

Он обвиняется в получении взяток от руководителей фирм за предоставление им в аренду помещений техникума, а также за "помощь" при сдаче абитуриентами вступительных экзаменов.

## Дело о 76 миллионах

**Высший хозяйственный суд Беларуси обязал минский учебно-исследовательский центр "Цель" вернуть Могилевской лентоткацкой фабрике долг в 76 миллионов рублей.**

Могилевчане, согласно договору о совместной деятельности, поставили в столичный центр свыше 23 тысяч метров гардинного полотна. Однако деньги за товар получили лишь частично. На все просьбы и уговоры перечислить фабрике оставшуюся сумму руководители "Цели" отмалчивались или же отделывались пустыми обещаниями.

Убедившись, что партнеры, грубо говоря, водят за нос, дирекция предприятия обратилась за помощью в Высший хозяйственный суд Республики Беларусь...

## Банда и наводчик

**Двое из этой банды были приговорены Верховным судом Грузии в 1988 году к 15 годам за бандитизм, но вскоре освобождены "в связи с изменившейся политической ситуацией". Нынешним летом амнистированные "деятели" заявились в Минск.**

Как сообщил начальник следственного отдела столичной прокуратуры В.Колотов, 3 августа они позвонили в дверь одной квартиры. Представились работниками милиции. Но когда хозяин потребовал документы, ударили его ножом в грудь и скрылись. Через пару дней по "наводке" коммерсанта М., которому за нужный адресок пообещали забыть про его должок им, ограбили квартиру, связав хозяйку и ее знакомого.

Кстати, это практически первое дело в Минске, возбужденное в последние годы за бандитизм.

## Когда родители дремлют

**В три часа ночи трое витебских школьников (от 12 до 15 лет) попытались взломать торговый ларек на улице Смоленской.**

Довести дело до кражи помешала милиция.

*Прачытайце!*

# Пра слова роднае, жывое, гаваркое

**Аўтара многіх крытычных ("Слова і вобраз", "Янка Купала", "Шматгалоссе жыцця") і дзіцячых ("Тараскавы турботы", "Дзе начуе сонца?", "Дождджык на колах") кніг, пастаяннага вядучага радыёклуба "Жывое слова" Уладзіміра Міхайлавіча Юрэвіча ведаюць у Беларусі калі не ўсе, дык многія.**

І вось прыемная сустрэча з яго новай кнігай "Слова жывое, роднае, гаваркое". Пра што яна? Пра вельмі і вельмі важнае: слова роднае.

Кніга складаецца з дзвюх частак: пазнавальнай і даведачнай. У пазнавальную ўвайшлі раздзелы "Адкуль ты, слова?", "Нараджэнне мовы", "Ад славянскіх вытокаў", "З легендаў і казак". У даведачнай частцы: "Як вас завуць", "Ад мянушкі да прозвішча", "Мова планеты Зямля".

Гэтую кнігу, на маю думку, у сваёй рабоце можа выкарыстаць не толькі настаўнік-моваед, яна дае цікавы матэрыял і для ўрокаў гісторыі, геаграфіі, літаратуры, пазакласнай работы.

Хочацца выказаць словы шчырай удзячнасці аўтару за такую змястоўную, патрэбную асабліва ў наш час, калі ўсе мы вяртаемся да роднага слова, да яго вытокаў, кнігу.

**Надзея БЕЛАВУС,**
**дырэктар Перарубскай школы Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці.**

*З прыёмнай "Народнай газеты". Тэл. 29-60-86*

# Не хадзіце, мужыкі, у "партызаны"...

Сорак пяць чалавек ваеннаслужачых — гэта, лічы, рота. І, выходзіць, што роту прывёў у рэдакцыю "Народнай газеты" жыхар Салігорска Міхаіл Лукашэвіч. Прывёў сваіх саслужыўцаў, зрэшты, не асабіста, а "ў выглядзе" подпісаў пад зваротам. Але і гэта, пагадзіцеся, дастаткова сур'ёзна.

А вось сутнасць звароту, выкладзенага нашым чытачом:

— Мы, як нас у народзе называюць, "партызаны", г. зн. прызваныя на ваенныя зборы салдаты і сяржанты запасу. У наша падраздзяленне пры вайсковай часці N 28390 у асноўным трапіў рабочы люд з Дзяржынска, Нясвіжа, Слуцка і Салігорска. Задачу мы сваю ў летні перыяд выканалі якасна і ў тэрмін, што было засведчана праверкай з вышэйшага штаба. Пасля заканчэння збораў нас прывезлі ў фінчасць для атрымання ваенных білетаў і грошай (сутачных). І тут высветлілася, што за 25 сутак нам налічана ўсяго толькі па 350—450 рублёў. Усе абурыліся, што так мала, бо, напрыклад, радавы салдат тэрміновай службы атрымлівае ў месяц каля 7 тысяч. Нам тады паказалі загад Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь ад 30 чэрвеня 1992 года, паводле якога радавому выплачваецца 15—20 рублёў сутачных. Але што гэта пры цяперашніх тэмпах інфляцыі!? Загад гэты яўна ўстарэў. А нам з фінчасці адказалі: "Іншага не паступала". Калі ж вярнуліся ў Салігорск і пайшлі па даведку ў ваенкамат, адкуль прызываліся, дык там увогуле ніякага загаду не знайшлі. Дзе хлусня, а дзе праўда — высветліць не можам.

Асабіста я пасля тэрміновай службы прызываюся на зборы чацвёрты раз і добра памятаю, як раней дакладна выплачвалі сярэдні заробак на вытворчасці плюс сутачныя. А цяпер вось такая валакіта: бярэш даведку на працы, паведамляеш па месцы службы разліковы рахунак прадпрыемства ў банк і пасля гэтага... набіраешся цярпення. На дварэ восень, а зарплаты за час збораў, на якія прызываліся 6 ліпеня, усё няма. Чым карміць сям'ю? І наша падраздзяленне — не выключэнне. Знаёмыя мужчыны, якія прызываліся перад намі ў маі, да сярэдзіны лета ўсё яшчэ не маглі атрымаць зарплату. Многія з нас цяпер проста кажуць: у наступны раз павестка на зборы дома іх "не знойдзе", няма жадання стаць аб'ектам ашуканства.

**Сяргей КРАПІВІН.**

